# САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ

*Думаем пра кожнага - працуем разам!*




**Свабода!**
**Справядлівасць!**
**Салідарнасць!**

Бюлетэнь БСДП, г. Магілёў, №4, травень 2013г.

**Мы, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада)!**
Мы, партыя будучыні!
**Мы выступаем за справядлівасць, дастойны ўзровень жыцця і мадэрнізацыю ва ўсіх сферах жыццядзейнасці.**
Мы лічым, што паляпшэнне жыцця ў краіне можа адбыцца толькі праз верхавенства закона. Мы за рэальнае раўнапраўе мужчын і жанчын.
**Мы перакананыя, што медыцына мусіць быць даступная, а адукацыю - сучасная.** Людзі наймальнай працы мусяць стаць асновай для сярэдняга класа. Пенсіянеры і інваліды павінны знаходзіцца пад больш пільнай увагай дзяржавы.
**Дайце будучыню і надзею сабе і сваім дзецям!**

## БОЛЬШ ЗА 500 ПОДПІСАЎ САБРАЛІ АКТЫВІСТЫ ГРАМАДЫ ЗА ЎВЯДЗЕННЕ "ЗАКОНА АБ ГРАМАДСКІХ СЛУХАННЯХ"

**Усе подпісы былі высланы ў Магілёўскі раённы, гарадскі і абласны Саветы дэпутатаў, а таксама дэпутатам парламента ад Магілёва Эдуарду Сянкевічу, Уладзіміру Васіленкі, Ігару Станкевічу і Аляксандру Разганаву.**


На фота Ігар Барысаў

Актывісты Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) разлічваюць на тое, што дэпутаты дасканала азнаёмяцца з прапановамі партыі, якія былі падтрыманыя магілёўцамі.

Ініцыятыву "Закона аб грамадскіх слуханнях" каментуе сябар Прэзід-ыума БСДП ад Магілёўскай вобласці Ігар Барысаў:

"Любая ініцыятыва не ўзнікае на роўным месцы – яна з'яўляецца вынікам аналізу сітуацыі і неабходнасці ў зменах. Як вядома, у Магілёве час ад часу ўзнікаюць гэтак званыя "гарачыя кропкі", дзе чыноўнікі наступаюць на інтарэсы людзей, у выніку чаго пачынае адбывацца супрацьстаянне, якое праяўляецца ў выглядзе стыхійных мітынгаў, збораў подпісаў, напісанні скаргаў у розныя інстанцыі", - гаворыць сацыял-дэмакрат.

**Ігар Барысаў кажа, што "гарачыя кропкі" на "Чапаеўцы", "Юбілейным" у Магілёве, а таксама ў вёсцы Нядашава-2, Магілёўскага раёна, застаюцца дагэтуль актуальнымі.**

"Мы прапануем, каб любое дзеянне ўладаў у пытаннях зносу старых раёнаў, ушчыльненні мікрараёнаў, а таксама перадачы зямлі агульнага карыстання ў пажыццёвую арэнду адбывалася з абавязковым грамадскім абмеркаваннем. У краіне няма агульнага Закона, які бы рэгуляваў правядзенне Грамадскіх слуханняў ва ўсіх сферах жыццядзейнасці, геаграфічна пачынаючы ад маленькай вёскі ці вуліцы і сканчваючы ўзроўнем горада", - гаворыць сябар Прэздыума БСДП ад Магілёўскай вобласці.

Ігар Барысаў кажа, што зараз узгадкі пра Грамадскія слуханні можна знайсці ў Водным Кодэксе і Кодэксе аб зямлі, экалагічным заканадаўстве і заканадаўстве аб градабудаўніцтве, аднак на сёння няма адзінай распрацаванай тэрміналогіі і адзінага падыхода ў правядзенні Грамадскіх слуханняў.

"Закон "Аб Грамадскіх слуханнях" прынцыпова адрозніваецца ад існуючага Закона "Аб мясцовым самакіраванні". Тут дастаткова проста запытаць думку людзей, сабраць іх, паразмаўляць з імі, каб пачуць розныя пазіцыі і з улікам іх прыняць кампраміснае для ўсіх рашэнне. Гэта разавая ініцыятыва, якая тым не менш, ставіць кропку ў часам непатрэбных супрацьстаяннях", - гаворыць сацыял-дэмакрат.

Варта адзначыць, што актывісты Грамады не распрацоўвалі цалкам Закон "Аб Грамадскіх слуханнях", а толькі тэзісна выказалі сваё бачанне яго і моманты з яскравымі прыкладамі, на якія варта звярнуць увагу.

**BSDP.ORG**
сайт прыхільнікаў БСДП
**bsdpps@tut.by**
адрас электроннай скрыні БСДП

# КАЛЯ 100 СТУДЭНТАЎ БРУ ПАДПІСАЛАСЯ Ў ПАДТРЫМКУ ЗАКОНА "АБ ГРАМАДСКІХ СЛУХАННЯХ"

**Гэта ў чарговы раз пацвярджае, што студэнты разбіраюцца ў палітыцы і падтрымліваюць неабходныя гораду і краіне ініцыятывы.**

Актывіст Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) **Максім Кавалькоў** кажа, што ў студэнтаў ініцыятыва партыі выклікала пэўную зацікаўленасць.

"Падпісваліся студэнты ў падтрымку Закона **"Аб грамадскіх слуханнях"** без праблем як на перапынках паміж парамі, так і ў інтэрнатах універсітэта. Я распавядаў у чым сутнасць нашай ініцыятывы, а таксама аб неабходнасці распрацоўкі і прыняцця гэтага закона", - гаворыць Максім.

Актывіст БСДП кажа, што праблем пры зборы подпісаў не было ніякіх.

"Студэнты ведаюць, што праблемы "гарачых кропак", якія існуюць на "Юбілейным" і "Чапаеўцы" могуць паўстаць у любым месцы і закрануць у тым ліку не толькі інтарэсы гараджана, аднак і саміх студэнтаў. Сёння спакойна, аднак заўтра можа нешта здарыцца і студэнты акажуцца пакрыўджанымі", - гаворыць Максім Кавалькоў.

Каб гэтага не адбылося людзі павінны думаць пра сваю будучыню, рабіць яе абароненай і ўплываць на яе.

Актывіст кажа, што збор подпісаў які ініцыявала БСДП пад напрацоўкамі да Закона "Аб Грамадскіх слуханнях" з'яўляецца пробным. Калі ж дэпутаты адмятуць усе прапановы актывістаў партыі, альбо праігнаруюць іх - аўтары ідэі новага Закона зоймуцца яго дэтальнай распрацоўкай і пачнуць збіраць па ўсёй краіне неабходныя паводле Канстытуцыі 50 тысяч подпісаў, каб Закон быў разгледжаны дэпутатамі ў Палаце прадстаўнікоў.

# У СПРЭЧЦЫ ЗА ЗЯМЛЮ МАГІЛЁЎСКІ СУД СТАЎ НА БОК ФЕРМЕРА-ДЭПУТАТА

**8 траўня, суд Ленінскага раёна Магілёва ў асобе суддзі Алены Дыбленка не задаволіў скаргу жыхара вёскі Нядашава-2 Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці Дзмітрыя Яўстратава на рашэнне мясцовага райвыканкама аб выдзяленні зямлі агульнага карыстання без правядзення грамадскіх слуханняў фермеру Юрыю Коршунаву.**


На фота Дзмітрый Яўстратаў

У судзе стала вядома, што адсутнічае механізм уліку грамадскай думкі пры перадачы зямлі агульнага карыстання, хаця гэты абавязак і прапісаны для дзяржаўных органаў. Пра гэта паведаміў начальнік юрыдычнай землеўпарадкавальнай службы Магілёўскага аблвыканкама **Эдуард Пракапенка**, які прысутнічаў на судовым пасяджэнні ў якасці прадстаўніка зацікаўленых асобаў.

**Дзмітрый Яўстратаў** з такім рашэннем не згодны і збіраецца яго абскардзіць у Магілёўскім абласным судзе.

"У некаторай ступені вырак суду чаканы, аднак я і надалей буду дамагацца таго, каб у нашай дзяржаве адбываўся ўлік грамадскай думкі, як таго патрабуе існуючы закон. Рашэнне суду Ленінскага раёна буду абскарджваць адразу пасля таго, як атрымаю на рукі матываваную чыстку да яго рашэння", - гаворыць Дзмітрый Яўстратаў.

Праваабаронца **Барыс Бухель** лічыць, што суддзя **Алена Дыбленка** ў сваім рашэнні падмяніла паняцце абароны права на ўдзел у прыняцці грамадсказначных рашэнняў на права карыстання зямлёй.

"Суддзя адзначыла, што калі Яўстратаву спрэчны зямельны ўчастак не прадастаўляўся, а таксама, што райвыканкамам не прымаліся рашэнні аб прыпыненні ім правакарыстання, а таксама не выношалася адмова ў яго прадастаўленні, то таму ў вяскоўца ў гэтай справе, нібыта, няма інтарэсу.

**Аднак, Яўстратаў патрабаваў ад суда адмяніць рашэнне райвыканкама аб перадачы зямлі ў арэнду фермеру не па гэтых абставінах, а таму, што парушана яго права і іншых людзей у прыняцці рашэння з нагоды гэтай незаконнай перадачы зямлі", - гаворыць Барыс Бухель.**

Праваабаронца адзначае, што вырак суду сведчыць пра тое, што Указы і іншыя падзаконныя акты прэзідэнта вышэй за Канстытуцыю, Водны і Зямельны Кодэксы.

Нагадаем, што раней Магілёўскі абласны суд адмяніў пастанову Ленінскага раённага суда з нагоды непадсуднасці скаргі Дзмітрыя Яўстратава суду і адправіў справу ў суд першаснай інстанцыі на новы разгляд.

Варта дадаць, што фермер **Юрый Коршунаў** з'яўляецца кіраўніком магілёўскай абласной асацыяцыі фермераў, а таксама дэпутатам сельскага і раённага Саветаў дэпутатаў.

# У МАГІЛЁВЕ РАЗБУРАЦЬ ДАРЭВАЛЮЦЫЙНЫ БУДЫНАК, А НА ЯГО МЕСЦЫ ПАБУДУЮЦЬ "МУЛЯЖ»

**Да такога кампрамісу падчас грамадскіх абмеркаванняў прыйшлі чыноўнікі і прадстаўнікі магілёўскай грамадскасці. Сярод асноўнай прычыны зносу старога будынку называецца**



На фота існуючы будынак, які пойдзе пад знос

Галоўны архітэктар Магілёва **Сяргей Бяляеў** сам накіруе новыя прапановы па праекту заказчыку - абласному ўпраўленню капітальнага будаўніцтва, паведамляе газета "Магілёўскія ведамасці".

Як раней паведамляла Еўрарадыё, на першых грамадскіх слуханнях, прысвечаных зносу дарэвалюцыйнага будынка, **Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры**, а таксама **Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны** выступілі супраць зносу будынка. Паводле іх, дом пабудаваны ў стыле эклектыкі і ўяўляе сабой гістарычную каштоўнасць.

**Актывісты БСДП уключылі пункт у прапановы па Закону «Аб Грамадскіх слуханнях». Мы прапануем, каб любы знос будынкаў пабудаваных да рэвалюцыі 1917 года абавязкова абмяркоўваўся з гараджанамі.**

# МАГІЛЁЎСКАЯ ПРАКУРАТУРА ПРАВЯРАЕ ЗАКОННАСЦЬ ПЕРАДАЧЫ ЗЯМЛІ БЕЗ ЗГОДЫ ПРАЦОЎНАГА КАЛЕКТЫВА

**Грамадскі актывіст Валерый Вусік адзначае, што за выяўленыя факты карупцыі, злоўжывання сваім службовым становішчам, прыпісках і бязгаспадарчасці старшыня СВК "Лябядзянка" Пётр Бялоў ужо пазбавіўся сваёй пасады.**

«Нягледзячы на гэта ў нас мала што змянілася. Яго трэба было не здымаць з пасады, а заводзіць на яго крымінальную справу, бо гэты чалавек давёў былы калгас да заняпаду. Людзей тут ніхто не паважае, што хочуць кіраўнікі тое і робяць", - гаворыць **Валерый Вусік.**

Жыхар вёскі Лябядзянка Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці прыводзіць выпадак, які не ўкладваецца ў галаве, калі 50 гектараў засеянай зямлі, **СВК "Лябядзянка"** без згоды працоўнага калектыву перадалі суседняй **паляўнічай гаспадарцы "Паўлінка".**

"У людзей ніхто нічога не пытаў. Як захацелі так і зрабілі. Я пачаў пісаць скаргі з гэтай нагоды - справай занялася пракуратура. Аднак ёсць сумнеў, што справа вырашыцца на карысць працоўнага калектыву - у "Паўлінку" ездзіюць на паляванне высокапастаўленныя чыноўнікі з усёй краіны, таму казаць пра верхавенства закона ў гэтай сітуацыі не выпадае", - кажа Валерый Вусік.




На пярэднім плане фота Валеры Вусік

Вясковец адзначае, што пасля таго, як ён пачаў пісаць скаргі - яго, пенсіянера, выключылі з кааператыву і цяпер кіраўніцтва СВК "Лябядзянка" не будзе дапамагаць у песеве і зборы ўраджаю бульбы. Агульнага сходу чальцоў кааператыву дзе вырашалася пытанне аб выключэнне пенсіянера з ліку членаў кааператыва таксама не праводзілася.



# АКТЫВІСТЫ ДЭМАКРАТЫЧНАГА РУХУ ПРА ЗАКОН «АБ ГРАМАДСКІХ СЛУХАННЯХ»

**Аляксей Паўлоўскі, вядомы грамадскі актывіст**



Такі закон патрэбен, бо ўлада і дэпутаты ў нашай краіне нажаль прызначаюцца. Яны не залежаць ад думкі людзей і не прыслухоўваюцца да іх, таму шмат робяць непатрэбнага для людзей. Часцей за ўсё пры прыняцці рашэнняў, якія закранаюць праблемы грамадзян іх думка не ўлічваецца. У выніку ўзнікаюць канфлікты паміж уладаю і насельніцтвам. Гэта негатыўна адбіваецца на іміджы ўлады і не вырашае праблемы людзей.

**Барыс Бухель, праваабаронца, «Чалавек года-2012» па версіі «Грамадскага магістрата»**



Я лічу, што Закон "Аб Грамадскіх слуханнях" проста жыццянеабходны. Канфліктныя сітуацыі паміж жыхарамі і мясцовымі органамі ўлады ўзнікаюць па тых ці іншых пытаннях пастаянна. Аднак, так званыя мясцовыя дэпутаты і дэпутаты парламента заўжды баяцца адстойваць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў перад вертыкаллю ўлады, а ў грамадскасці няма механізмаў, як давесці сваю думку да чыноўнікаў, хоць ва ўсіх Кодэксах пазначана, што грамадска значныя пытанні мусяць прымацца з улікам грамадскай думкі.

**Уладзімір Краўчанка, старшыня абласнога Таварыства аховы помнікаў**



Такі закон патрэбен. Часта ўлады выкарыстоўваюць грамадскія слуханні для апраўдання сваіх тых ці іншых дзеянняў, якія накіраваныя на тое, каб толькі прыкрыцца грамадскай думкай. Пытанні, якія датычацца насельніцтва – гэта экалогія, добраўпарадкаванне, градабудаўніцтва патрабуюць шмат грошай з мясцовага бюджэта. Каб задавальняць патрэбы людзей трэба з імі працаваць, а як вядома, гэтыя пытанні патрабуюць шмат часу і дададатковых сродкаў. Прасцей вырашыць пытанне седзючы ў кабінеце без уліку думак людзей. Гэта свайго кшталту карупцыя і атрыманне выгады. Адсюль людзі незадаволеныя ўладай, расце сацыяльная напружанасць. Нармальны закон дазволіць зняць вострыя моманты ва ўзаемаадносінах людзей з уладаю.

Да прыкладу выпадак калі на месцы могілак маскоўскіх стральцоў, без грамадскіх слуханняў, пабудавалі бензапраўку, а на назвы рынкаў Быхаўскі і Мінскі перайменавалі ў Магілёўскі і Цэнтральны. Рынкі гістарычна мелі назовы тых напрамкаў, куды ішла дарога. Гэта сімвалы нявежасці ўладаў. З новых назваў толькі ўсе смяюцца.

**Сяргей Лапуцін, лідар Магілёўскай кампаніі "Гавары праўду"**



Закон патрэбен, а ініцыятыва БСДП выклікае павагу. Хачу сказаць, што грамадзянская кампанія "Гавары праўду" таксама працуе ў гэтым напрамку. Раней мы ўжо накіроўвалі свае прапановы мінскім чыноўнікам. Спадзяюся, што і наша праца, і праца актывістаў БСДП будзе мець станоўчыя вынікі. Мы грамадзяне сваёй краіны і наша ўлада павінна быць для народа, а не абслугоўваць толькі сваіх прыхільнікаў і саміх сябе. У бліжэйшы час мы разам з актывістамі БСДП плануем правесці супольны круглы стол, дзе абмяркуем нашыя напрацоўкі і магчымае супрацоўніцтва ў гэтым напрамку.

**Новікаў Юрый, намеснік старшыні Свабоднага прафсаюзу Беларускага**



Закон патрэбен. Калі ўлада належыць народу, то як без грамадскіх слуханняў прымаць рашэнні па тых ці іншых пытаннях, якія датычацца інтарэсаў насельніцтва. Нажаль інстытут грамадскіх слуханняў на дадзены момант не дзейнічае і ёсць здаровы сэнс больш дэтальна прапісаць працэдуру і дэтальна распрацаваць Закон "Аб Грамадскіх слуханнях".



**САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ**

**Галоўны рэдактар ВІТОЛЬД НЯЎРЫДА**

Бюлетэнь **Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады)**
Надрукавана ў Магілёве на ксераксе. Наклад 299 асобнікаў
Распаўсюд бясплатны.
Выраблены пра тэхнічнай падтрымцы рэдакцыі газеты **«НАШ Магілёў»**
e-mail: gazetanm.eu@gmail.com